**№№25–26 (3564–3565)**

14 лютага 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## *Беларускія азімыя ў бяспецы*

*Будучы ўраджай добра перанёс экстрэмальныя халады дзякуючы высокаму снежнаму покрыву.*

Згодна з прагнозамі спецыялістаў, ва Украіне могуць загінуць каля двух мільёнаў гектараў азімых. Беларускія аграрыі за лёс азімых культур не хвалююцца. Яны прагназуюць зімоўку пасеваў *"на ўзроўні сярэдніх шматгадовых паказчыкаў"*.

**SOS!**

# Ці дажыве Сяргей Каваленка да суда?



Стан здароўя віцебскага актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленкі, які амаль 60 дзён таму пачаў галадоўку ў віцебскім СІЗА, крытычны. Ён можа памерці ў любую хвіліну...

Галадоўку як знак пратэсту супраць крымінальнага пераследу Сяргей Каваленка распачаў 20 снежня мінулага года, калі стала вядома, што супраць яго распачата справа паводле артыкула 415 Крымінальнага кодэкса Беларусі — "Ухіленне ад адбывання пакарання". Праз два дні хлопца, які праславіўся на ўсю краіну тым, што на самай высокай навагодняй ёлцы Віцебска вывесіў бел-чырвона-белы сцяг, абвінавацілі ў парушэннях адбывання рэжыму ўмоўнага пакарання (за гэты ж самы сцяг) і кінулі за краты.

За час пасля 20 снежня ў жыцці Сяргея адбыўся яшчэ адзін суд — 12 студзеня яго прызналі вінаватым у нецэнзурнай лаянцы падчас аднаго з візітаў у будынак крымінальна-выканаўчай інспекцыі Першамайскага РАУС Віцебска, куды ён павінен быў хадзіць адзначацца. Вырак — штраф у 4 базавыя велічыні. *"Буду галадаць, пакуль альбо не выйду з-за кратаў, альбо не пamру",* — заявіў на тым судовым пасяджэнні Каваленка.

Апошні раз свайго падабароннага адвакат Пётр Каваленка бачыў у мінулую пятніцу. *"Стан здароўя Сяргея, са слоў адваката, крытычны,* — прызналася ў размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" жонка вязня Алена Каваленка. — *Спыняць галадоўку ён па-ранейшаму не збіраецца. Па меншай меры, пакуль не выйдзе з СІЗА. Ведаючы Сяргея, магу сказаць толькі адно: калі ён нешта для сябе вырашыў, то пойдзе да самага канца..."*

Алена Каваленка прызнаецца, што паспрабавала б адгаварыць мужа ад галадоўкі, але ёй не даюць спаткання з ім. *"Разумееце, кіраўніцтва СІЗА пытанне аб спатканнях не вырашае,* — гаворыць яна. — *Вырашэнне гэтага пытання ў кампетэнцыі суда, а дакладней — суддзі, якая будзе разглядаць справу мужа. Асабіста я сем разоў за ўвесь гэты час звярталася з просьбай аб спатканні з Сяргеем, спробы дабіцца сустрэчы з ім рабілі і маці, і брат... Усё безвынікова. Спачатку адмаўляў следчы, які вёў гэтую справу, адказваючы, што наша з мужам спатканне "немэтазгоднае", зараз адмаўляе суддзя Першамайскага суда Віцебска Алена Жук. Я шматразова ёй тэлефанавала, але яна не жадае размаўляць. Некалькі разоў спрабавала трапіць да яе на асабісты прыём — таксама безвынікова. Нават не ведаю, як прабіць гэтую сцяну роўнадушша..."*

Апошнюю афіцыйную паперу з суда Першамайскага раёна Віцебска Алена Каваленка атрымала 6 лютага. Хутчэй за ўсё, да суда, які павінен распачацца 21 лютага, яна мужа не пабачыць. *"У гэтай паперы напісана наступнае,* — цытуе дакумент Алена Каваленка. — *"Суд Першамайскага раёна Віцебска, разгледзеўшы вашу заяву, адмаўляе вам у спатканні з мужам Каваленкам С.А. і адначасова тлумачыць, што ў адпаведнасці з артыкулам 369 КПК Рэспублікі Беларусь па просьбе членаў сям'і і блізкіх сваякоў абвінавачанага, які ўтрымліваецца пад вартай, прадастаўляецца магчымасць спаткання з абвінавачаным пасля вынясення прысуду". Але ці дажыве Сяргей да прысуду?.. Мне гаварылі, што ён вельмі слабы ўжо..."*

Пра стан здароўя і ўмовы ўтрымання мужа за кратамі Алена Каваленка даведваецца альбо ад кіраўніцтва СІЗА, альбо ад адваката. *"Трымаюць Сяргея аднаго ў двухмясцовай камеры,* — гаворыць жанчына. — *Як тлумачаць у СІЗА, такія правілы — утрыманне па адным — датычацца ўсіх галадоўшчыкаў. Таксама дакладна ведаю, што мужа кармілі прымусова — праз зонд. Потым, па словах кіраўніцтва СІЗА, ён знаходзіўся ў медчасці і раз у суткі нібыта еў сам. А зараз ізноў адмаўляецца прымаць ежу. Кіраўніцтва СІЗА запэўнівае, што Сяргей знаходзіцца пад наглядам тамтэйшых медыкаў, што за яго станам сочаць. Але ці так гэта? Відавочна адно: так доўга чалавек галадаць не можа, страты здароўя могуць быць непапраўнымі, Сяргей проста можа памерці..."*

У лістах з ізалятара Сяргей Каваленка мала піша пра стан свайго здароўя. *"Лісты ідуць з вялікімі затрымкамі — прыкладна на тры тыдні,* — расказвае Алена. — *Нядаўна я атрымала ад яго ліст, які быў адпраўлены пасля трыццатага дня галадоўкі. Ужо тады муж пісаў, што ў яго моцна ўпаў ціск. А што з ім творыцца зараз, у якім ён стане, я магу толькі здагадвацца. Заўтра ж будзе 60 дзён, як ён пачаў галадоўку... Таму я чакаю 21 лютага — дня, калі распачнецца суд, каб на ўласныя вочы пабачыць, што адбылося з ім за гэтыя месяцы зняволення..."*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

### КАМЕНТАРЫЙ

*Аляксандр ВАЛЧАНІН, фельчар:*

**«Смерць можа надысці ў любую секунду...»**

— Кажучы па-простаму, доўгатэрміновая галадоўка прыводзіць да незваротнага парушэння абмену рэчываў у арганізме чалавека. Адбываюцца незваротныя працэсы ў галаўным мозгу. Не атрымліваючы харчавання, трымаючыся толькі на вадзе, арганізм пачынае "харчавацца" самім сабой. Пад удар трапляюць усе без выключэння ўнутраныя органы, парушаецца праца сардэчна-сасудзістай і нервовай сістэм. Без належнага медыцынскага нагляду і дапамогі смерць можа надысці ў любую секунду.

**ПАД ГРАДУСАМ**

## *Зіма, мяцеліца...*

*Маразы ў Беларусі аслабелі, на змену ім прыходзіць даволі зменлівае надвор'е — са снегам, парывістым ветрам і слабым марозам днём.*

У аўторак, ***14 лютага***, месцамі невялікі снег. На асобных участках дарог захаваецца галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы складзе мінус 14—20 градусаў, пры праясненнях панізіцца да мінус 21—26 градусаў, днём — мінус 9—14 градусаў. На паўночным захадзе краіны ноччу прагназуецца мінус 8—13 градусаў, днём чакаецца 4—8 градусаў ніжэй за нуль.

У ноч на сераду, ***15 лютага***, месцамі пройдзе невялікі снег. Днём на большай частцы тэрыторыі прагназуецца снег, у асобных раёнах мяцеліца, па захадзе чакаецца ўзмацненне ветру парывамі да 15—18 метраў у секунду. Магчымы снежныя заносы. На асобных участках дарог захаваецца галалёдзіца.

***16 лютага*** максімальная тэмпература днём складзе мінус 6—13 градусаў.

У выхадныя дні надвор'е ў Беларусі абумовіць поле паніжанага атмасфернага ціску. У пятніцу і суботу па краіне месцамі пройдзе кароткачасовы снег. ***18 лютага*** максімальная тэмпература днём прагназуецца на ўзроўні мінус 2—9 градусаў.

***19 лютага*** абяцаюць снег, месцамі мяцеліцу. Мінімальная тэмпература паветра ў начныя гадзіны складзе мінус 3—10 градусаў, пры праясненнях яна панізіцца да мінус 15 градусаў. Максімальная тэмпература паветра днём — ад нуля да мінус 6 градусаў.

**ГАЗЕТА — ЧЫТАЧЫ**

## Ну як без «Народнай Волі»?

*На пачатку лютага ў рэдакцыю патэлефанаваў чалавек з Гомеля і слёзна папрасіў:*

*— Дапамажыце!*

*— Што здарылася?*

*— З-за фінансавых праблем вырашыў падпіску на "Народную Волю" афармляць штомесяц. І праваронiў — пабег напярэдадні 1 лютага на пошту, а мне кажуць: "Позна, ужо можаш падпісацца толькі на сакавік". А я хачу чытаць кожны нумар...*

*Вядома ж, не кінулі мы свайго сябра-чытача без "Народнай Волі": дасылаем у канверце, як гэта рабілі тады, калі газета друкавалася ў Смаленску. Але ж гэта не лепшы варыянт.*

*Вось чаму мы вымушаны нагадаць тым, у каго яшчэ не аформлена падпіска на сакавік: не спазніцеся! І лепш за ўсё падпісацца адразу на некалькі месяцаў наперад, як гэта зрабіла большасць чытачоў.*

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

**НУ И НУ!**

## *Белорусов в Венесуэле причислили к мафии*

*Громкий скандал разразился в Венесуэле в связи с деятельностью компании "Белзарубежстрой" (БЗС). Местные журналисты подозревают ее в связях с мафией, обвиняют в плохом обращении с рабочими и недобросовестном выполнении работ. "Белорусская мафия" — так называется одна из статей, которые посвятила этой компании венесуэльская газета "Эль Универсаль".*

Автор этой и еще одной публикации о "Белзарубежстрое" **Йозеф Полишук** высказывает мнение, что деятельность БЗС в тропической стране стала одной из причин ареста белорусского бизнесмена *Виктора Шевцова*.

Около четырех лет назад Беларусь обещала построить в Маракае и Каракасе 17.500 квартир, но эти обещания не были выполнены, пишет Полишук на страницах "Эль Универсаль". Вместе с тем, отмечает автор, аналогичные проекты с россиянами и иранцами продвигались успешно. Следует отметить, что в Венесуэле белорусы строят не сами, а нанимают венесуэльских подрядчиков, которыми руководят через военных переводчиков, сообщает naviny.by.

Венесуэльцы работают в тяжелых условиях, сталкиваясь с небезопасным трудом, задержкой зарплат и увольнениями.

Строительство сопровождалось деятельностью так называемой "арматурной мафии", которая занималась контрабандой железа.

Газета поинтересовалась у представителя БЗС **Андрея Атрашкевича**, связан ли арест **Виктора Шевцова** с ситуацией в Венесуэле. ***Атрашкевич с этим мнением не согласен, он считает, что бизнесмена арестовали в связи с его деятельностью в Ираке.***

Венесуэльский журналист отправился в Маракай, чтобы на месте выяснить, как обстоят дела с белорусским строительством. Оказалось, в частности, что 29 декабря прошлого года в городе были сданы под ключ 720 квартир (всего чуть более 4% от проектных 17.500), но с того дня и до 3 января 2012 года даже в них не было электричества и канализации! Работы на сданных объектах продолжались и после того, как в них заселились первые жильцы.

**14 ЛЮТАГА — ДЗЕНЬ УСІХ ЗАКАХАНЫХ**




## *Наста ПАЛАЖАНКА: «Зміцер, я вельмі кахаю цябе!..»*

У гэты дзень для нас, маладафронтаўцаў, больш звыкла казаць пра пачуццё любові да сваёй краіны. Але сёння я хачу перадаць табе, Зміцер, што наперадзе нас чакае толькі самае лепшае і светлае. Наш світанак яшчэ наперадзе! Сэрца маё заўжды б'ецца разам з тваім. Любові! Свабоды! Перамен! Я вельмі кахаю цябе і ведаю, што ты хутка будзеш побач. Можна адабраць у чалавека многае, але з сэрца пачуццяў не вырвеш.

**ДЫПКУР'ЕР**

## *У Мінск прыехаў Шагал*

*Новы амбасадар Ізраіля ў Беларусі Ёсіф Шагал прыбыў у Мінск.*

Пра гэта паведамілі ў амбасадзе гэтай краіны.

Заўтра, 15 лютага, новы кіраўнік дыпламатычнай місіі правядзе сваю першую прэс-канферэнцыю. Нагадаем, што пасада кіраўніка дыпламатычнай місіі Ізраіля ў Беларусі была вакантнай ад сакавіка мінулага года, калі Эдзі Шапіру, які займаў яе, прызначылі Генеральным консулам Ізраіля ў Санкт-Пецярбургу.

***З асабістай справы***

Ёсіф Шагал нарадзіўся ў 1949 годзе на тэрыторыі былога СССР. Скончыў Педагагічны інстытут у Баку. Працаваў у сродках масавай інфармацыі Азербайджана і Ізраіля. У 2006—2009 гадах быў дэпутатам кнесета ад партыі "Наш дом — Ізраіль".

**СКАНДАЛ**

# Ланскую піярылі, бо іншыя не варушыліся?

*Просьба Віцебскага аблвыканкама распаўсюджваць рэкламу Алены Ланской стала пакуль самым гучным скандалам сёлетняга адбору на "Еўрабачанне".*

Днямі ў рэдакцыю "Народнай Волі" патрапіў электронны ліст, які кіраўнік упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама **Уладзімір Цярэнцьеў** разаслаў у падначаленыя структуры з пазнакай "Тэрмінова". Просьба да іх была простая: *"размясціць на рэкламных шчытах і стэндах ва ўсіх установах культуры, а таксама размножыць і распаўсюдзіць сярод маладзёжнай аўдыторыі і творчых працаўнікоў"* улёткі з заклікам галасаваць за канкурсантку "ЕўраФэсту" **Алену Ланскую**.

Паведамленні аб тым, што дзеля прапаганды аднаго з удзельнікаў адбору быў задзейнічаны адміністрацыйны рэсурс, узрушылі грамадства.

*"На мой погляд, Алена павінна зняць сваю кандыдатуру, бо перамагаць трэба сумленна, праяўляючы талент і харызму",* — напісала наведвальніца сайта nv-online.info Юлія.

*"Гэта вельмі брудна і непрыгожа,* — прагучала і куды больш радыкальнае выказванне ад удзельніка форуму Пятра. — *Навошта ж марнаваць народныя грошы і пускаць пыл у вочы? Лічу, што віцебскі аблвыканкам павінен публічна папрасіць прабачэння перад фіналістамі "ЕўраФэсту" і звольніць Цярэнцьева".*

Між тым "Палажэнне аб правядзенні Нацыянальнага тэлевізійнага музычнага праекта "ЕўраФэст" не забараняе аблвыканкамам дапамагаць удзельнікам адбору не толькі "маральна", а яшчэ і фінансава. Чаму ж тады адміністрацыйнай увагай аблашчана менавіта Ланская?

*"Да нас па дапамогу звярнулася толькі група падтрымкі Алены Ланской,* — патлумачыла "Народнай Волі" намеснік кіраўніка ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама **Ларыса Аленская**. — *Трэба ўлічыць, што Алена Ланская стала пераможцай XX фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Зразумела, што для горада Віцебска імя Ланской — своеасаблівы брэнд. Але калі б да нас звярнуліся прадстаўнікі іншых выканаўцаў, мы таксама садзейнічалі б ім. Рэакцыя была б аднолькавай.*

*СМІ падаюць гэтую навіну пад нейкім негатыўным соусам. Але мы не за і не супраць. Да нас звярнуліся — і мы дапамаглі. Мы проста хацелі разрэкламаваць "ЕўраФэст".*

Паразмаўляць з самой спадарыняй Ланской не атрымліваецца — яна актыўна рыхтуецца да фіналу конкурсу і амаль увесь час праводзіць на рэпетыцыях.

Сёння, 14 лютага, увечары Беларусь даведаецца, хто будзе прадстаўляць нашу краіну на міжнародным конкурсе песні "Еўрабачанне-2012". Пяць прэтэндэнтаў — **Вікторыя Алешка, Гюнеш,** гурт **Litesound**, спевакі **Юзары і Алена Ланская** — выйдуць на сцэну яшчэ раз, каб гледачы змаглі абраць лепшага. Пажадаем поспехаў усім выканаўцам, і няхай пераможа мацнейшы...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**



УПРАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРЫ

Вул. Гоголя, 6
210010, г.Віцебск
Тэлефон/факс (0212)42-52-15

УПРАВЛЕНИЕ КУЛЬТУРЫ

Ул. Гоголя, 6
210010, г.Витебск
Телефон/факс (0212)42-52-15

Начальникам отделов культуры горрайисполкомов, директорам ССУЗов

СРОЧНО!

О содействии

Управление культуры Витебского облисполкома направляет визитную карточку участницы финала ЕвроФеста, который состоится 14 февраля в 18.00 на телеканале «Беларусь 1» в прямом эфире.

Просим разместить данную информацию на рекламных щитах и стендах во всех учреждениях культуры, а также размножить и распространить среди молодёжной аудитории и творческих работников.

Приложение: на 1 л. в 1 экз.

Начальник управления культуры В.В.Терентьев

Народная Воля http://www.nv-online.info
14 ЛЮТАГА 2012 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «SOS!» — такі кліч даносіўся ў суботу з залы пасяджэнняў Смалявіцкага райвыканкама

У зале пасяджэнняў Смалявіцкага райвыканкама для ўсіх жадаючых пачуць інфармацыю з першых вуснаў месцаў не хапіла. Людзі набіліся, як селядцы ў бочку, ды яшчэ і ў калідоры стаялі. Цэнтральная плошча раённага гарадка гэтым суботнім ранкам таксама была ўся застаўлена аўтамабілямі — людзі з'язджаліся як з Мінска, так і з бліжэйшых вёсак. Наэлектрызаваная атмасфера адчувалася паўсюль. Нават у зале, дзе была прызначана сустрэча; перад прысутнымі сядзелі не толькі чыноўнікі, перад кожным з якіх стаяла таблічка з прозвішчам і пасадай, але і таямнічы чалавек у цывільным, які ўважліва сачыў за выступоўцамі. Тым не менш жадаючых выступіць было шмат...

Прычына таго, што людзі адзін аднаму праз тэлефоны дасылалі сігналы "SOS!" і запрашалі на сустрэчу ў райвыканкам, — прэзідэнцкі ўказ аб будаўніцтве беларуска-кітайскага індустрыяльнага парку. Цудоўны праект, але на тэрыторыі гэтага самага будучага парку зараз знаходзяцца больш за 30 дачных масіваў і 19 вёсак у прыродаахоўнай зоне. Сюды ж уваходзіць і біялагічны заказнік "Валмянскі", які з'яўляецца важным элементам экалагічнай сеткі нацыянальнага ўзроўню. Лес, чыстая рэчка, грыбы, ягады... І ўсё гэта недалёка ад сталіцы. Людзі прадавалі кватэры ў Мінску і куплялі тут дамы, гадамі будавалі сякія-такія лецішчы для адпачынку, шмат пакаленняў вяскоўцаў палівалі гэтую зямлю сваім потам...

Пра хуткае будаўніцтва на гэтых землях кітайскіх прадпрыемстваў грамадскасць даведалася толькі ў суботу, 4 лютага. Дачнікі адразу адрэагавалі стыхійным сходам. Хаця насамрэч інфармацыя аб тым, што ў Мінскай вобласці можа быць распачата будаўніцтва кітайска-беларускага індустрыяльнага парку, мільганула яшчэ напрыканцы кастрычніка 2010-га, пра падпісанае пагадненне паведамлялася па выніках візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Кітай. Пасля гэтага "Кітайская карпарацыя інжынірынгу самса" правяла перамовы з прадстаўнікамі Мінскага аблвыканкама. Старшыня аблвыканкама Барыс Батура прапанаваў кітайскім партнёрам тры пляцоўкі пад будаўніцтва: у Смалявіцкім раёне, Пухавіцкім (зблізку Мінскай ЦЭЦ-5, дзе вядзецца мадэрнізацыя з удзелам кітайскіх інвестараў) і ў Дзяржынскім раёне. Кітайцы сказалі, што хочуць зямлю бліжэй да аэрапорта. Натуральна, найбольш даспадобы ім прыйшоўся Смалявіцкі раён.

Людзі бралі слова адзін за адным, не звяртаючы ўвагі ні на чалавека ў цывільным з характэрнай знешнасцю, ні на высокіх начальнікаў. Член кааператыва "Граніт" Аксана Зелянеўская запыталася: "*Чаму ніхто не пацікавіўся меркаваннем людзей, якія тут уладкавалі тэрыторыю, пабудавалі дамы? А некаторыя ж такім чынам вырашылі свае жыллёвыя пытанні і зняліся з чаргі на кватэру. А хто спытаў у жыхароў двухмільённага горада, ці хочуць яны, каб на месцы адпачынку іх сем'яў пабудавалі "кітайска-беларускую прамзону"? Чаму не было ніякага грамадскага абмеркавання? Чаму нават карту земляў, якія адыдуць пад парк, не надрукавалі, і людзі вымушаны былі шукаць яе ў інтэрнэце? Знайшлі! Але толькі на сайце беларускай амбасады ва Украіне...*"

Старшыня Смалявіцкага райвыканкама **Міхаіл Загорцаў** як мог супакойваў прысутных, кажучы, што нічога пэўнага пра праект яшчэ не вядома. "*Што вам патрэбна? Каб вашы дамы не знеслі? Нікога зносіць не будуць!*" — запэўніваў старшыня. Але гэта не сцішыла хвалі абурэння. Людзі выкрыквалі: "*Дамы — гэта адно. Але ёсць яшчэ сталічны горад, у якім у летнюю спякоту немагчыма дыхаць. Пра людзей вы падумалі?!*"

**Кірыл Карацееў**, начальнік упраўлення інвестыцый Міністэрства эканомікі, спрабаваў уратаваць сітуацыю "палітінфармацыяй" пра карысць інвестыцый і пра поспехі кітайскага народа ў развіцці сваёй эканомікі. Але гэта яшчэ больш раз'юшыла людзей. Выступоўцы з залы пачалі казаць, што ніхто не супраць інвестыцый, але чаму індустрыяльны парк трэба будаваць не каля абласных цэнтраў, дзе не хапае чалавечых рэсурсаў, а ля перанаселенага Мінска?

Жыхарка вёскі Заямнае прыехала ў райвыканкам з мужам. "*Вось мы — перасяленцы з чарнобыльскай зоны,* — усхвалявана распавяла жанчына. — *Прыехалі сюды, пабудавалі дом, абжыліся. Мне 63 гады. Цяпер зноў перасяленне... Я абсалютна нічога супраць кітайцаў не маю. Але чаму ў нас гатовыя ўсё зрабіць для іншаземцаў, а не думаюць пра сваіх грамадзян? Вось што крыўдна да слёз!*"

Член дачнага кааператыва "Рэчанька" (дарэчы, у яго ўваходзяць пераважна былыя супрацоўнікі МУС) спадар Казлоўскі ад імя прысутных заявіў: "*Мы просім вас данесці інфармацыю аб тым, што людзі катэгарычна супраць будаўніцтва індустрыяльнага парку на гэтым месцы. Гэта абумоўлена негатыўнымі наступствамі не толькі ў экалагічным плане, хаця тут пад пагрозай лес і вадасховішча. Тут небяспечная для ўлад сітуацыя, бо нельга так абыходзіцца са сваім народам. Мы выбіралі сваіх прадстаўнікоў, каб яны баранілі нашы правы. Але дзе яны? Дзе нашы дэпутаты?*"

Дэпутатаў сапраўды на сустрэчы не аказалася. Людзі запытвалі: чаму такое стаўленне да выбаршчыкаў, якія даверылі дэпутатам прадстаўляць іх інтарэсы ў выбарчых органах? Чаму як выбары — дык усе абранцы за людзей, а як атрымалі мандат — то нават на важныя сустрэчы іх не даклічашся?..

Цікава, што пасля сходу высветлілася: у зале моўчкі прасядзеў памочнік дэпутата Смалявіцкага райсавета. Ні слова не сказаў. Калі жыхарка вёскі Заямнае Валянціна Каляка нарэшце яго пазнала і запыталася, з чаго ён так анямеў раптам, то чыноўнік адказаў: "*А што гаварыць? Людзі ж самі ўсё сказалі*".

Валянціна жыве ў вёсцы Заямнае. Яна была ў складзе групы, якая перадала ў Адміністрацыю прэзідэнта калектыўны зварот ад грамадзян, якім пагражае высяленне. "*Указ аб будаўніцтве ўжо падпісаны. І гэта жах! Палова людзей гэтага папросту не перажыве. Мы купілі дом у вёсцы ў 2002 годзе і пабудавалі на яго месцы новы. Цяпер новую будоўлю мы ўжо не падымем — ні па здароўі, ні па грошах. Нават і гэты наш дом яшчэ цалкам не дабудаваны. Прадстаўнікі мясцовай улады кажуць, што нічога страшнага. Лёгка ім казаць! У нашай вёсцы ёсць сям'я, якая ўжо перасялілася сюды пасля таго, як іх вёску затапілі пад вадасховішча. Цяпер ім зноў прыйдзецца перасяляцца. А гэта старыя людзі. Як яны гэта перажывуць у такім узросце?*" — запытвала **Валянціна Каляка**.

Лётчык **Анатоль Русіла** толькі летась дабудаваў дом для сваёй сям'і ў дачным масіве Быкачына, што ў трох кіламетрах ад аэрапорта. "*Гэта ж не толькі наш дачны кааператыў. Вакол яшчэ некалькі дзясяткаў населеных пунктаў! Не менш за тры тысячы сем'яў. Мой сусед ужо пенсіянер. Ён як даведаўся пра гэтых кітайцаў, дык плакаў, казаў, што новую будоўлю ўжо не падыме. Хацеў чалавек дзецям кватэру ў горадзе пакінуць, а сам сюды перабрацца. А цяпер усё спачатку трэба пачынаць, хаця ні фізічных, ні маральных сіл ужо няма. Я не разумею: як можна тут будаваць прамысловую зону? Тут жа заказнік, лес чысты. Людзі грыбы-ягады збіраюць. На рэчку прыязджаюць на выхадныя сем'ямі, з дзецьмі, ставяць намёты, купаюцца. Калі тут пабудуюць кітайскі індустрыяльны парк, то што тут будзе?.. Апроч таго, могуць узнікнуць і нацыянальныя праблемы. Трэба ж улічваць, што ствараецца рэгіён с кампактным пражываннем людзей абсалютна іншай ментальнасці, культуры. Я не ведаю, куды дзець гэты Шанхай, але тут будаваць яго нельга*".

Член дачнага кааператыва "Граніт" **Ігар Зяленскі** кажа: "*Нам спачатку казалі: "Не хвалюйцеся, вас гэта не закране". Потым высветлілася, што закране — і яшчэ як! Хаця людзі ўсе супраць, бо тое, што гавораць пра кампенсацыі тым, каго зносяць, — гэта зноў-такі падман. Бо тут хітрае пытанне заканадаўства. Кампенсацыі выплачваюць за дамы, а лецішчы — гэта садовыя домікі і гаспадарчыя збудаванні. За іх толькі нейкія капейчыны атрымаеш. Народ ужо кінуўся да ацэншчыкаў, нешта аформіць спрабуюць, проста нейкая паніка ўжо пачалася. А некаторыя ж прадалі кватэры ў Мінску, каб пабудавацца, хацелі на старасці на прыродзе пажыць. Вось дык пажылі!..*"

Людзі не ведаюць, чаго чакаць. Старшыня Смалявіцкага райвыканкама Міхаіл Загорцаў заявіў напрыканцы сходу, што праз 15 дзён людзям будуць дадзены больш канкрэтныя адказы. Але ў людзей, якія патэнцыйна трапляюць пад высяленне, настрой рашучы. Наступны сход прызначаны на 27 лютага. Старшыні кааператываў паведамілі, што людзі будуць збірацца на сходы ў сваіх кааператывах, каб узгадняць сумесныя дзеянні. "Сваю зямлю кітайцам не аддадзім!" — гавораць яны.

Хоць пры чым тут кітайцы?

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПАРАЎНАЕМ

## Пенсіі ў Беларусі ўдвая меншыя, чым у Расіі,

### а сярэдні заробак у Беларусі ў снежні мінулага года склаў трэць ад расійскага і палову ад сярэдняга заробку ў Казахстане

З 1 лютага ў Беларусі павысіліся працоўныя пенсіі ў сярэднім на 20 працэнтаў. У Расіі таксама 1 лютага адбылося чарговае павышэнне працоўных пенсій. У нашых суседзяў індэксацыя склала толькі 8,8%. Але зараз расійскі пенсіянер атрымлівае дапамогу ўдвая большую, чым пенсіянер у Беларусі.

З 1 лютага сярэдняя працоўная пенсія ў Беларусі склала прыблізна 1 мільён 168 тысяч альбо каля 140 долараў. У Расіі з улікам прыбаўкі сярэдні памер працоўнай пенсіі з 1 лютага складае каля 8 з паловай тысяч расійскіх рублёў, альбо прыблізна 283 долары.

Але яшчэ нядаўна пенсіі беларусаў амаль не адрозніваліся ад расійскіх, а да 2008 года і зусім былі большыя. Што змянілася за гэты час у Беларусі? Амаль што нічога. І кіраўнік у краіне той жа, і не збочылі з абранага 17 гадоў таму шляху. А пенсіі ўпалі да такой рысы, што сёння сярэдняй працоўнай пенсіі не хопіць нават на квіток да Масквы (туды і назад) у самым танным купэ, бо такі квіток у адзін бок каштуе зараз 624 тысячы 280 беларускіх рублёў.

**Сярэдні памер працоўнай пенсіі ў Расіі і Беларусі (у доларах ЗША)**

| Год | Беларусь | Расія |
|---|---|---|
| 2005 | 103 | 90 |
| 2006 | 116 | 118 |
| 2007 | 160 | 134 |
| 2008 | 172 | 149 |
| 2009 | 153 | 215 |
| 2010 | 204 | 264 |
| 2011 | 115 | 275 |

Дарэчы, заробкі ў Расіі таксама большыя, чым у Беларусі. Згодна з апублікаванай на сайце Нацбанка аналітычнай справаздачай "Агульныя тэндэнцыі ў эканоміцы і грашова-крэдытнай сферы Рэспублікі Беларусь" за 2011 год, у снежні мінулага года сярэдні заробак у Беларусі склаў трэць ад расійскага і палову ад сярэдняга заробку ў Казахстане. У справаздачы пазначана, што беларусы атрымалі ў снежні ў сярэднім 342 долары зарплаты.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**




АКЦЫЯ

## Скідка на самае неабходнае

*Сведкамі нечаканай акцыі можна стаць у сталічнай краме "Сделай сам", што недалёка ад парка імя М.Горкага.*

Гандляры сантэхнікай робяць рэдкую прапанову. Набываеш 10 унітазаў і атрымліваеш скідку ў 10%. Насамрэч, парадаксальная шчодрасць...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**
**Фота Уладзіміра БАГДАНАВА.**

БЛІЦ

*Яшчэ мінулай восенню экс-кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Усс звярнуўся да беларусаў з просьбай прыняць удзел у стварэнні ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за ўнясенне змяненняў у Выбарчае заканадаўства.*

*Прапаноўваецца змяніць артыкулы 34, 35 і 72 Выбарчага кодэкса з тым, каб кандыдаты мелі права накіроўваць ва ўчастковыя камісіі сваіх прадстаўнікоў, а ўчастковыя камісіі падчас падліку галасоў абавязкова дэманстравалі назіральнікам і davераным асобам кандыдатаў кожны бюлетэнь.*

*"Народная Воля" звярнулася да апазіцыйных лідараў з пытаннем:*

# Вы падтрымліваеце ці не падтрымліваеце ініцыятыву Усса?

### Аляксей ЯНУКЕВІЧ, старшыня Партыі БНФ:

— Я б не сказаў, што мы яе не падтрымліваем. Мы гатовы прадаставіць памяшканне для сходу ініцыятыўнай групы Дзмітрыя Усса. Мы вітаем гэтую ініцыятыву, аднак лічым, што яна не самая прыярытэтная на сённяшні дзень, таму свае людскія рэсурсы зараз накіроўваем у іншае рэчышча.

На нашу думку, галоўнае на сёння — гэта тэма палітзняволеных у Беларусі. Яе трэба ўздымаць усімі магчымымі сродкамі. Што тычыцца выбараў, то тут важна памяняць практыку прымянення выбарчага заканадаўства. Таму што і па дзеючым законе можна праводзіць сумленныя выбары.

### Сяргей КАЛЯКІН, старшыня партыі «Справядлівы свет»:

— Калі гаварыць пра ініцыятыву Усса, то мы гэта ў свой час ужо праходзілі. Была створана ініцыятыўная група, якая мела на мэце дабіцца адмены рэгістрацыі Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах. Але яна не была зарэгістравана. Таму сёння ёсць разуменне таго, што законным шляхам праз ініцыятыву, якая быццам бы дазволена Канстытуцыяй, змяніць заканадаўства нельга з-за шэрагу прычын.

Па-першае, ЦВК не зарэгіструе такую ініцыятыўную групу, што адразу робіць нулявым увесь эфект яе дзейнасці. Па-другое, нават калі ініцыятыўная група будзе зарэгістравана і калі яна збярэ патрэбныя па законе 50 тысяч подпісаў, то ва ўмовах поўнага кантролю з боку Адміністрацыі прэзідэнта за тым, што прымаецца ў парламенце, гэта таксама не будзе мець сэнсу.

Таму стварэнне такой ініцыятыўнай групы, як Усса, — затратны варыянт, які мае на выхадзе нулявы вынік.

### Віталь РЫМАШЭЎСКІ, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя»:

— БХД цалкам падтрымлівае ініцыятыву Дзмітрыя Усса, мы ўвесь час знаходзімся з ім на сувязі. У Мінску і большасці рэгіёнаў Беларусі актывісты БХД увайшлі ў склад гэтай ініцыятыўнай групы. Мы гатовы ўдзельнічаць у сходзе ініцыятыўнай групы і ў самой кампаніі. Праблема ў тым, што ўлады адмаўляюць у правядзенні сходу ініцыятыўнай групы. Таму, магчыма, гэтую кампанію можна правесці іншым шляхам. Напрыклад, простым зборам подпісаў пад зваротам усіх зацікаўленых грамадзян Беларусі.

### Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, экс-кандыдат у прэзідэнты, лідар грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!»:

— Гэта некарэктнае пытанне ў дачыненні да грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!", бо мы цалкам падтрымліваем ініцыятыву экс-кандыдата ў прэзідэнты Дзмітрыя Усса. Актывісты нашай кампаніі ўваходзяць у склад яго ініцыятыўнай групы.

### Юрась ГУБАРЭВІЧ, намеснік старшыні руху «За свабоду»:

— Змест патрабаванняў, вылучаных Дзмітрыем Уссам, мы падтрымліваем. Самі вылучаем іх не першы год, прычым упор робім на практыку прымянення выбарчага заканадаўства.

Дзмітрый Усс чамусьці вырашыў, што апазіцыя ў Беларусі толькі ўчора стварылася і ніколі гэтым не займалася. Практыка ўплываць на змены заканадаўства праз рэферэндумы была і раней, але ўсё гэта ўпіраецца ў ведамства Ярмошынай — Цэнтральную выбарчую камісію, якая ні разу не рэгістравала падобныя ініцыятывы.

У сённяшніх умовах правесці любую грамадзянскую ініцыятыву, рэалізацыя якой залежыць ад волі Ярмошынай, нерэальна. Таму няма жадання ўпустую губляць час...

### Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

— Аб'яднаная грамадзянская партыя цалкам падтрымлівае гэтую ініцыятыву Дзмітрыя Усса. Партыйныя структуры далі зялёнае святло ўсім ахвочым актывістам. Хто захацеў з партыйцаў, той далучыўся. Іншая справа, спадзяванняў на рэгістрацыю гэтай ініцыятыўнай групы няма... Гэтую ініцыятыву ўлады "заваляць" яшчэ на этапе яе фарміравання...

**Апытанне праводзіў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Дзмітрый УСС: «Я ў шоку ад таго, што робіцца ў Беларусі...»

— Зараз у ініцыятыўную групу па ўсёй Беларусі ўваходзяць больш за тысячу чалавек, — расказаў "Народнай Волі" Дзмітрый Усс. — Зусім нядаўна мы падалі паўторную заяўку ў Мінгарвыканкам з патрабаваннем прадаставіць нам памяшканне для правядзення сходу ініцыятыўнай групы. Першая падобная спроба была ў снежні мінулага года. Тады мне прыслалі адпіску, што быццам бы не могуць задаволіць заяўку з-за таго, што парушаны пункт "Закона аб масавых мерапрыемствах". І ўсё. Больш ніякай канкрэтыкі.

Улады баяцца чэсных выбараў, а таму супраціўляюцца такой ініцыятыве. Шчыра кажучы, я ў шоку ад таго маразму, які творыцца ў Беларусі. Чаго вартая Канстытуцыя і правы людзей у Беларусі? Для таго, каб сабрацца людзям для волевыяўлення па пэўнай пазіцыі, трэба мець дазвол чыноўнікаў! У любым выпадку, калі і ў другі раз нам адмовяць, будзем спрабаваць сабрацца на плошчы. Хаця б на плошчы Бангалор...

ЗА РУЛЁМ

## У Беларусь пераганяюць усё больш скрадзеных машын

*У Польшчы адзначаюць тэндэнцыю да павелічэння транзіту скрадзенага аўтатранспарту з Захаду ў Беларусь і Расію.*

Як паведамляе газета "Kurier Poranny", крадуць аўтамабілі ў асноўным на заказ. Вельмі часта яны не затрымліваюцца ў Беларусі, а пераганяюцца ў Расію. Перагоншчыкі скрадзеных аўто атрымліваюць каля 500 еўра. І гэта пры тым, што кіроўцам можа пагражаць крымінальны пераслед.

Паведамляецца, што скрадзеныя ў ЕС аўтамабілі каштуюць да 150 тысяч еўра.



**ДАРЭЧЫ**

**Вось як выглядае дзясятка аўто, якія найбольш часта выкрадалі ў Беларусі ў мінулым годзе.**

ВАЗ — 419 (28,5% ад агульнай лічбы);
Volkswagen — 183 (12,4%);
Audi — 92 (6,3%);
Opel — 73 (5%);
Ford — 71 (4,8%);
Mercedes — 62 (4,2%);
"Москвич" — 48 (3,3%);
Mazda — 47 (3,2%);
Renault — 38 (2,6%);
BMW — 36 (2,4%).

**Вера ВІР.**

НЕРУХОМАСЦЬ

# Кватэры «Ля Траецкага» купляюць заможныя беларусы і замежнікі

*Кватэры ў жылым комплексе прэміум-класа "Ля Траецкага", які будуецца на набярэжнай Свіслачы, сталі раскупляць яшчэ да ўзвядзення дома. Кліентаў нават не прыходзілася шукаць — яны самі прыходзілі ў агенцтва нерухомасці. Хоць жыллё не з танных — квадратны метр каштуе прыкладна 3000 долараў.*

*Сёння ў гэтым доме выстаўлена на продаж усяго тры кватэры. Атрымліваецца, што ўсе астатнія ўжо прададзены?*

— Яшчэ не ўсе кватэры набыты, — *сказалі "Народнай Волі" ў агенцтве нерухомасці.* — Хутчэй за ўсё, частка яшчэ будзе прадавацца пасля здачы дома, але колькі канкрэтна — будзе залежаць ад палітыкі "Трайпла", які будуе гэты дом. Жыллё тут на самай справе раскупляецца добра, ажыятаж па-ранейшаму вялікі.

*Па словах рыэлтараў, у элітным доме ў цэнтры Мінска набываюць жылплошчу не толькі заможныя беларусы.*

"Ёсць і замежнікі — і з Еўропы, і з краін Персідскага заліва", — *адзначаюць у агенцтве.*

*Планавалася, што дом здадуць у першым квартале 2012 года. Зараз тэрмін здачы перанеслі на другі квартал.*

— Па дакументах першы пускавы комплекс здадзены яшчэ ў мінулым годзе, — *кажуць у агенцтве нерухомасці*. — І для першаснага агляду, для заўваг па стане кватэр людзі ўжо актыўна запрашаюцца. Але, зразумейце, гэта ж не Каменная Горка, дзе людзі з нецярпеннем чакаюць здачы дома і, атрымаўшы ключы, хутчэй бягуць засяляцца. Тут за ўсю гісторыю дома ні адзін дольшчык не патэлефанаваў і не спытаў, калі ж нарэшце дом будзе здадзены. Людзі бачаць, што будоўля ідзе. У іх нармальныя жыллёвыя ўмовы, нікому спешка не патрэбна. Таму ажыятажу з засяленнем няма...

**Марына КОКТЫШ.**



У ТЭМУ

## Расійцам выгадна купляць жыллё ў Беларусі

*Цікавасць да набыцця беларускай нерухомасці праяўляюць прадстаўнікі вышэйшага класа ігракоў з Расіі. Пра гэта заявіў дырэктар ТАА "Віва Капітал" **Вадзім Тачкін**. Гэта пакупнікі з высокімі даходамі, з буйных мегаполісаў, і яны аддаюць перавагу элітным забудовам у цэнтры Мінска.*

*"Гэта можа быць добрая якасная "сталінка" з адпаведнымі характарыстыкамі, ці дамы, якія будуюцца ў цэнтральнай частцы горада з прэтэнзіяй на прэміум-клас і якіх сапраўды стала больш у апошні час,* — цытуе эксперта Infobank.by. — *У заезджых ігракоў высокія патрабаванні да пражывання, а гасцінічны комплекс Беларусі не можа даць ім звыклы ўзровень камфорту. Цэны на нерухомасць расійцаў мала хвалююць. Калі людзі гуляюць па-буйному, то зразумела, што ўзровень іх даходаў нашмат вышэй за сярэдні. Ды і па маскоўскіх мерках кошт элітнага квадратнага метра ў Мінску ў 5000 долараў — гэта зусім не грошы. Столькі каштуе ў межах МКАД метр якой-небудзь"панэлькі" ў спальным мікрараёне".*

Другая асноўная катэгорыя расійцаў, якія зацікаўлены ў набыцці беларускай нерухомасці, гэта былыя выхадцы з Беларусі, адзначае Тачкін. Звычайна гэта людзі ва ўзросце, якія вяртаюцца на радзіму. Гэтыя пакупнікі ў асноўным цікавяцца нерухомасцю ў маляўнічых рэгіёнах Беларусі, да прыкладу, у раёне Браслаўскіх азёр.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
14 ЛЮТАГА 2012 г.

**ФАРТУНА**

## У Пінску шукаюць мільярдэра

### Латарэйны білет, набыты ў Пінску, выйграў 1 мільярд рублёў, аднак яго ўладальніка пакуль не знайшлі.

За некалькі гадзін да Новага 2012 года латарэя "Ваша лато" разыграла адзін мільярд рублёў, выйгрыш трапіў на білет, які быў набыты ў Пінску. З моманту розыгрышу прайшло ўжо больш за месяц, а за шалёнымі грашыма ніхто не звярнуўся. Таму арганізатары латарэі праз мясцовыя газеты пачалі шукаць шчаслівчыка...

**ДАБРАЧЫННАСЦЬ**

## Падораны брэсцкай царкве кілаграм золата пайшоў на аплату пазык

### Шчодрае ахвяраванне зрабіў невядомы.

Невядомы 30-гадовы мужчына апусціў кілаграмовы злітак у скарбонку праваслаўнай царквы ў адной з крамаў. Камера відэаназірання зафіксавала, што сваю аперацыю ён суправадзіў фразай: *"На купалы!"*

На наступны дзень, як піша vbr.by, золата было прададзена Нацбанку за 462 мільёны рублёў (каля 55.000 доляраў). Сума была пераведзена на рахунак Спаса-Раства Хрыстовай царквы.

Аднак, па словах святара **Яўгена Ліхоты**, грошы пойдуць не на купалы, а на пакрыццё запазычанасці будтрэсту №8. На сёння прыход завінаваціўся будаўнікам 380 мільёнаў рублёў. І гэта пры тым, што будаўнічыя працы скончыліся ўжо амаль год таму.

Разлічыўшыся з будтрэстам, на астатнія грошы вернікі змогуць працягнуць будаўніцтва. Да купалаў царкве яшчэ далёка...

**БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!**

## У студзені ў Мінску зарэгістравалі 20 новых выпадкаў ВЧ

### Інфекцыю выявілі ў 10 мужчын і 10 жанчын.

Большасць інфікаваных — маладыя людзі ва ўзросце 20—34 гады.

Па стане на 1 лютага агульная колькасць зарэгістраваных выпадкаў ВІЧ у сталіцы склала 1852 чалавек. З іх 657 — гэта жанчыны і 1215 — мужчыны.

**НАВУКА**

## Доктарскую дысертацыю ў мінулым годзе абаранілі 47 вучоных

### Мадэрнізацыя навукі дае свае першыя вынікі: жадаючых абараняць доктарскія працы ў Беларусі становіцца ўсё менш.

У 2011 годзе 47 вучоных атрымалі ступень доктара навук, у 2010-м — 45, у 2009-м — 51, у 2006 годзе — 44. Для параўнання, у 2005-м і 2004 гадах Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй ступень доктара навук была прысуджана 116 вучоным, у 2003-м — 173.

Такое рэзкае зніжэнне колькасці паспяховых абарон дысертацый тлумачыцца тым, што з 2006 года змяніліся Палажэнні аб прысуджэнні вучоных ступеняў і прысваенні навуковых званняў, яны сталі больш жорсткімі і патрабавальнымі.



Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены, што такі падыход быў правільны.

*"Жыццё даказала нашу праўду,* — заявіў ён днямі на цырымоніі ўручэння дыпломаў доктара навук і атэстатаў прафесара. — *Высокія патрабаванні дзяржавы да атэстацыі навуковых кадраў апраўдалі сябе. Тэматыка доктарскіх дысертацый усё больш мяняецца ў бок практычнай значнасці, з'яўляюцца работы сусветнага ўзроўню".*

У сваю чаргу былы прэзідэнт Акадэміі навук, акадэмік Аляксандр Вайтовіч лічыць, што падзенне зацікаўленасці ў атрыманні навуковай ступені доктара навук — гэта сведчанне кадравага дэфіцыту ў навуцы.

— Перадусім гэта пытанне падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў навуцы, — падкрэслівае Аляксандр Вайтовіч. — Ёсць цэлыя навуковыя ўстановы, дзе на працягу 5—7 гадоў не абараніўся ні адзін доктар навук. Калі яшчэ некалькі гадоў такая тэндэнцыя захаваецца, некаторыя навуковыя спецыяльнасці могут увогуле застацца без кваліфікаваных кадраў. Тое, што моладзь не ідзе ў навуку, — гэта вынікі агульнага стаўлення да навукі, прэстыж якой падае.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**КІНАСЕАНС**

## «Кастрычнік» адкрыюць 8 сакавіка

### Сталічны кінатэатр збіраюцца крыху адрамантаваць.

"Кастрычнік" — адзін з найстарэйшых кінатэатраў у беларускай сталіцы — працуе з 1975 года. Пасля рамонту колькасць глядзельных месц крыху зменшыцца — у зале плануецца ўсталяваць больш камфартабельныя крэслы.

**ПРОГНОЗЫ**

## Экологи считают, что к 2050 году в мире закончится рыба

Рыболовство как отрасль прекратит свое существование после 2050 года, так как к этому моменту рыбные ресурсы полностью истощатся, считает председатель правления Международного союза охраны природы **Ашок Хосла.**

*"К 2050 году рыбные ресурсы закончатся, ловить станет нечего... Всей отрасли тогда настанет конец",* — заявил Хосла.

Согласно данным продовольственной и сельскохозяйственной организации ООН (SAO), на которые сослался Хосла, пик добычи рыбных ресурсов был пройден к началу XX века, пишет РИА "Новости". Затем, после непродолжительной стабилизации, объемы вылова упали на 15% с 1950-го по 1975 год, и *"сокращение продолжается с ускорением"*, отметил он.

**ПАМЯЦЬ**

# Выгнаны Патрыцый

## 14 лютага Міхасю Стральцову споўнілася б 75 гадоў!

### Паводле народнага меркавання, могілкі заўсёды лічыліся месцам сакральным, дзе спачываюць душы памерлых. З прадаўніх часоў катэгарычна забаранялася зносіць што-небудзь дахаты з могілак — гэта ўспрымалася як вялікі грэх. Аднак ёсць людзі, якім, як кажуць, усё да лямпачкі...



..З вартоўні на сталічных Чыжоўскіх могілках нехта скраў кнігу пахаванняў за другую палову 1987 года. Тую кнігу, у якой 25 жніўня названага года быў зроблены запіс аб дакладным месцазнаходжанні магілы Міхася Стральцова. Пры жыцці — адметнага паэта і празаіка, пасмяротна — лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, з гледзішча часу сённяшняга і будучага — класіка беларускай літаратуры. Знікла кніга, а без яе, як без лоцмана, выпраўляцца на пошукі па неагляднай прасторы, густа застаўленай помнікамі-крыжаносцамі, бессэнсоўна.

Тысячы і тысячы надмагілляў, сціплыя стандартныя помнікі і цэлыя мармуровыя некропалі... "*Пісьменнік Міхась Стральцоў?"* Зычлівая маладзіца адмоўна хітае галавой: *"Тут столькі знакамітасцяў пахавана... Але... стукайце — і адчыніцца, шукайце — і знойдзеце*". Любы супрацоўнік могілак падкажа вам, дзе пахаваны брат Уладзіміра Мулявіна Валерый. А магіла Стральцова — у нейкім дзясятку метраў ад мулявінскай.

І вось я стаю ля апошняга прыстанішча вядомага пісьменніка. На помніку — ссунутая набакір вясёлая снегавая шапка. Да шэрай каменнай брылы прытуліўся сімвал вечнасці — ядловец. На камені выразна праступае ці то лебядзінае крыло ў размаху, ці то — з часінаў мезазою ці палеазою — адбітак папараці. Ад усіх гэтых асацыяцый на душы робіцца не па-могілкаваму светла, ледзь не радасна. І нібы нашаптаныя гэтымі вечнымі соснамі, гэтым марозаўстойлівым ядлоўцам, гэтым каменным лістом папараці, прыходзяць на памяць радкі. Класічна-ясныя. Роздумна-эмацыйныя. Стральцоўскія.

*З двара прыйду і сяду ля агню.*
*Палаюць дровы. Ссечана капуста*
*На градах — блаславенне дню.*
*Змрок у палях — там сіберна і пуста.*
*Узыдзе месяц позна. На парог*
*Я ноччу выйду. У нямым здранцвенні*
*Паветра, далеч. Серабрыцца лог*
*За сажалкай — на ім снуюцца цені.*
*О роднае маё! Як доўга да цябе*
*Ішоў я, кволы падарожнік.*
*О весялосць у восеньскай журбе!*
*Агонь.*
*Саган.*
*Вуголле і трыножнік.*

Верш называецца "**Бацькаўшчына".** Я не ўяўляю яго чарнавік у чарналессі паправак і закрэсліванняў. Мне здаецца, ён напісаўся як выдыхнуўся — адразу ўсімі сваімі зычнымі і галоснымі, без адзінага лішняга гуку. Такі паэт Міхась Стральцоў — нешматслоўны і надзіва гарманічны. Па ім, як па камертоне, можна правяраць свой паэтычны слых, настройвацца на чытанне сапраўднай паэзіі. Я наўмысна не гавару тут пра Стральцова-празаіка, бо і проза ягоная напоўненая паэзіяй, як напоўнены сокам даспелы яблык. Выцісніце яго — і атрымаюцца непрыдатныя для спажывы жамяры. Стральцоў мог пачаць і закончыць празаічны твор вершамі, як, напрыклад, аповесць "**Адзін лапаць, адзін чунь**", і як жа арганічна тое выглядала! Мог уласную прозу напоўніць чужой паэзіяй, як гэта зроблена ў вялікім эсэ "**Загадка Багдановіча".** Тая "Загадка..." сталася таямніцай і самога Стральцова — як ён, ні разу не пабываўшы ў Крыме, у Ялце, у "белым доме ля сіняй бухты", здолеў так псіхалагічна дакладна апісаць апошнія дні Максіма Багдановіча?




Міхася Стральцова ў паваеннай беларускай літаратуры няма з кім параўнаць, у сваім пакаленні ён глядзіцца непадобным на другіх адзінцом. Магчыма, гэтым сваім непадабенствам ён кагосьці і раздражняў. Але Стральцова любілі і шанавалі тыя творцы, каму не засціла вочы зайздрасць, хто цаніў адметнасць чужога таленту — Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль. Вось напісаў я пра немагчымасць параўнання і ўспомніў, што Брыль сугучнага Стральцову пісьменніка ўсё ж знайшоў. Праўда, не ў беларускай літаратуры. Прадстаўляючы трыццацігадовага Стральцова ўсесаюзнаму чытачу (у Маскве ў перакладзе на рускую мову выходзіла кніга "Что будет сниться"), Іван Антонавіч параўнаў свайго маладога калегу з... Іванам Буніным ("абодвух чытаў на адной хвалі прыёму"). Празорлівы і начытаны Брыль ведаў, што гаворыць, і ўсё роўна словы ягоныя выглядалі як нечувана шчодры аванс, які належала адпрацаваць. І Стральцоў адпрацаваў — колькі паспеў.

Дзве розныя мовы — і адна хваля прыёму? Чым жа яны сугучныя — патомны дваранін з-пад Арла і сын настаўніка з Магілёўшчыны? І ў Буніна, і ў Стральцова — вытанчаны псіхалагізм, паэтычнае светаадчуванне, увага да дэталі. *"Прыгадваецца мне ранняя пагодная восень. Жнівень быў з цёплымі дажджамі, быццам наўмысна спорнымі для сяўбы..."* Хто гэта? Мабыць, Стральцоў. Але ў якім ягоным апавяданні такі пачатак? Не шукайце — не знойдзеце. Гэта пачатак "Антонаўскіх яблыкаў" Буніна. Думаецца, пры добрым перакладзе стральцоўскай прозы магчымы і адваротны эфект. І як быццам няма тут аніякага дзіва — малодшы мог вучыцца ў старэйшага, як скрозь водзіцца ў літаратуры. Але Бунін — з'ява непаўторная і немагчымая па-за літаратурай рускай. Проста павінен быў нарадзіцца падобны талент, з гэткай жа чулай, як мембрана, душой. Праўда, можна згадаць і той факт, што продкі Буніна паходзілі з Беларусі і насілі прозвішча Бункоўскія. Жонка так і называла яго беларускім імем — Ян.

*"Милый Ваня, мой бог свободен от цензуры, и я ликую,"* — гэтак Яну-Івану Буніну надпісаў свой дарэвалюцыйны здымак Фёдар Шаляпін. Савецкая цэнзура хутка падгрэбла пад сябе ўсіх багоў, і ўжо на пачатку 20-х і знакаміты пісьменнік, і славуты спявак, ратуючы свае таленты, апынуліся за мяжой, у Францыі. Эміграцкі хлеб горкі, але жылі яны ў культурнай сталіцы Еўропы — Парыжы, вандравалі па свеце, ім былі даступныя здабыткі сусветнай культуры.

Грамадзянін другой краіны і жыхар другой эпохі Міхась Стральцоў таксама цягнуўся да сусветнай культуры — наколькі гэта было магчыма ў СССР. *"Плач па Гарсія Лорку", "Калі сын Феба — Фаэтон памчаў адзін на калясніцы...", "У Анны у Андрэеўны Ахматавай ёсць невялікі вершык..."* — так пачынаюцца першыя, якія прыйшлі на памяць, стральцоўскія вершы. Помніцца, у студэнцкую пару мне здавалася, што і пісацца падобнае павінна ў нейкім нязвыклым антуражы, заморскім паркерам на якой-небудзь незвычайнай стальніцы. Якое ж было маё здзіўленне, калі я пазней апынуўся ў кватэры Стральцова (ужо без гаспадара) на вуліцы Прытыцкага, і жонка паэта паказала мне ягоны стол. Ён быў з белага мармуру! Забыўшыся на пачастунак — нейкі балгарскі напой, я ўсё глядзеў на той стол, і хацелася мне не чарку ў рукі ўзяць, а памацаць на тым стале розныя завітушкі, ці не з сланцавых біўняў зробленыя.

Цікава, вядома ж, паназіраць за Фаэтонам на калясніцы ці паразмаўляць з музай, якая калісьці дыктавала старонкі "Пекла" самому Дантэ. Але барабанна-глумлівая эпоха вымагала іншых тэм і герояў. І сапраўдныя паэты, каб не здрадзіць сабе, не могучы эмігрыраваць кудысьці далей (мяжа была на сямі замках), эмігрыравалі — хто ў перакладчыкі (як Арсеній Тарkoўскі), хто ў казачнікі (як Уладзімір Дубоўка), хто ў сумную краіну маўчання або ў вясёлае царства Вакха (такіх лічыць не пералічыць). Міхась Стральцоў таксама пабываў і там, дзе сум, і там, дзе весялосць. І калі сябры пачыналі дакараць за празмернае маўчанне, паэт абараняўся таленавіта, як умелы фехтавальшчык: *"Над словам і над гукам, даўмешыся пары, спярша на рукі хукай, пасля ужо твары*". Тонкі, дасціпны ўкол тым творцам, якіх прынята называць пладавітымі.

А дакоры за ўцёкі ў царства Вакха неспадзявана абярнуліся яшчэ адной эміграцыяй — за калючы дрот. Тагачаснае кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў вырашыла, што так будзе лепш, і ў 1982 годзе запраторыла Стральцова ў Мазырскі ЛТП ("лечебно-трудовой профилакторий"). І прабыў там паэт больш за год. Што там была за ўстанова, мне патлумачыў Леанід Дранько-Майсюк, які — адзіны з беларускіх пісьменнікаў! — адведаў старэйшага калегу. Вось што ён распавёў: "Уражанне было вельмі гнятлівым: высокі глухі плот з калючкай наверсе, на КПП узброеныя прапаршчыкі, закрытыя кратамі вокны, падобныя на астрожнікаў пацыенты, злосны брэх вартаўнічай аўчаркі..." Горка чытаць у адным з лістоў на волю і словы самога Міхася Стральцова, чыё фота раптоўна спатрэбілася ў сталічным выдавецтве*: "Я ім здымак адсюль пашлю: валасы на 2 см нам дазваляюць, кляйма на ілбе няма, ноздры не вырваныя, а гольф я ў каго-небудзь, хто на свабоду будзе ісці, на 5 хвілін, каб сфатаграфавацца, пазычу".*

"Кляйма на ілбе няма..." Але ж застаецца, павінен застацца след ад Божага пацалунка, якім адзначаюцца вялікія таленты ад самага нараджэння. Кажуць жа: паэт, пацалаваны Богам. Ці бачылі, ці заўважалі тую Божую ласку на светлым чале Міхася Стральцова мазырскія прапаршчыкі? Наўрад ці.

Я ўсё шукаў, дзе ў стральцоўскай паэзіі праявіцца тая "гнятлівая атмасфера" перыферыйнага ЛТП з яго шэрымі сценамі, забранымі ў краты вокнамі і казарменным існаваннем ад пабудкі да адбою. Прозы ён там не пісаў, але паэзія не пакідала яго і ў паднявольным жыцці, і ладная частка кнігі "Мой свеце ясны" (1986) пісалася менавіта ў Мазырскім ЛТП. Шукаў я доўга, але замест натуральных у тых умовах змрочных рэфлексій знаходзіў радкі накшталт гэтых:

*Вось тут, далёка ад сталіцы,*
*Паблізу ісцінаў старых,*
*Жыву, як выгнаны патрыцый,*
*Грыбы збіраю у бары.*
*Шукаю вернай панацэі*
*Ад розных там душэўных ран*
*Тут, у бярозавым ліцэі,*
*І на рысталішчах палян.*

Гаспадай апальнага рымскага патрыцыя ўбачыўся Стральцову Мазырскі ЛТП, а лес за калючым дротам — бярозавым ліцэем. Ён так бачыў свет — без бруду і хамства. Ён і ў падканвойнай казарме адчуваў сябе свабодным, як да гэтага і пасля гэтага пачуваўся свабодным у далёка не свабоднай Бэсэсэрыі, у беларускай літаратуры, якую сумнавядомы Галоўліт стараўся трымаць на кароткім павадку.

**"Мой свеце ясны"** — адна з найлепшых айчынных паэтычных кніг XX стагоддзя. Калі паэт дачасна згас у анкалагічным шпіталі ў Бараўлянах (1987 год), літфункцыянеры спахапіліся і ўзнагародзілі ўжо мёртвага Стральцова Дзяржаўнай прэміяй. Як чатыры гады перад гэтым узнагароджвалі — таксама пасмяротна — Уладзіміра Караткевіча. Але ж — ***"гэта трэба не мёртвым, гэта трэба жывым***". Ды што паробіш, калі ўлада, як правіла, заўважае найперш дзяржаўны падхалімаж. Няма яго — няма і прэміі. А запабягаць перад кімсьці было не ў характары Міхася Стральцова. Памятаю, у рэстаране Цэнтральнага дома літаратара ў Маскве пасля прысвечанай Алесю Адамовічу вечарыны я апынуўся поруч з вядомым крытыкам Валянцінам Аскоцкім. Ён уразіў мяне веданнем сучаснай беларускай паэзіі і зусім ужо ашаламіў, калі разам з Рымай Казаковай зацягнуў беларускую народную песню. "Адкуль гэта ў вас?" — спытаўся я ў Аскоцкага. "Ад сябра майго — Мішы Стральцова", — быў адказ. Ужо дома ў стральцоўскім аднатомніку я прачытаў прысвечаны сябру-масквічу верш, які заканчваўся радкамі: *"Далёкі друг, я даль тваю люблю, далёкі друг, любі маю таксама"*. І аніякага табе шапказдымання перад уплывовым крытыкам. Сказана з пачуццём уласнай годнасці і раўнапраўнай дружбы. Чаго сёння так не хапае некаторым беларускім палітыкам. Палітыкі мусяць браць урокі ў літаратараў, у тым ліку ў Міхася Стральцова...

Ён так і застаўся ў айчыннай літаратуры пяцідзесяцігадовым патрыцыем, які, аднак, не захінаўся ў тогу высакамернасці, калі, "хукнуўшы на рукі", ціха прамаўляў не пачутыя своечасова ісціны, выяўляў сваю захопленасць светам (абавязкова — ясным). Сёння многія стральцоўскія радкі гучаць афарыстычна: "***Калі душа маўчыць, не гаварыце лепш", "Павер, што болей чым імгненне не прыме вечнасць ад цябе", "Хай слова будзе як патрэба, як у прыпар вады глыток, але ж бывае слова — срэбра, маўчанне — золата, браток"***. І калі афарызмы гэтыя гучаць сапраўды неяк па-патрыцыянску, то ўмеў Стральцоў і пра высокія матэрыі сказаць проста і даходліва, нібы знарок для якога Хведара ці Панаса, якія мільгаюць у адным з ягоных вершаў. Прычым сказаць на папулярнай у народзе ва ўсе часы трасянцы: ***"Цвічок ва ўласным боце страшней, чым "Фауст" Гёце".***

Прасеяўшыся залатым пяском праз сіта часу, афарыстычна загучала і проза Міхася Стральцова. Вось як заканчваецца ягоная "Загадка Багдановіча": *"Застаўся пасля яго адзін "Вянок". Не старайцеся ўплятаць туды новыя кветкі: тыя, што там, ніколі не завянуць. Сплятайце свае вянкі. Не старайцеся адшчыкнуць хоць адзін лісток ад тых лаўраў: тыя лаўры, перш чым стаць імі, былі цернямі".* Які годны запавет творчай моладзі, якая часам пнецца самасцвярдзіцца праз прыніжэнне старэйшага пакалення. Але не будзем папракаць маладых — звычайна тое адбываецца праз элементарнае няведанне спадчыны.

Аднойчы прыляцела да мяне юная шчабятлівая ластаўка з тэлеканала "Белсат". "А чаму ў беларускай літаратуры няма шэдэўраў сусветнага ўзроўню? А чаму яна ўся прыземлена-вясковая? А можаце назваць што-небудзь не горшае за... Гары Потэра?" І пачаў я той ластаўцы называць — усё стральцоўскае: **"Смаленне вепрука", "Сена на асфальце", "Адзін лапаць, адзін чунь"**... Бачу — крывіцца расчаравана, вёскай ёй ад тых загалоўкаў патыхае. А названыя творы — лірычна-філасофская проза самай высокай якасці, чытво на ўсе ўзросты. І ўвогуле, гэта той выпадак, пра які народная мудрасць трапна гаворыць: мае лапці твае боты пераходзяць.

Як і кожнаму творцу, Міхасю Стральцову хацелася быць пачутым. У апошнім для яго 1987-м ён згаджаўся на ўсе выступленні. У сталічным Доме літаратара прэзентаваліся **"Мой свеце ясны"** і кніга эсэістыкі **"Пячатка майстра**". А ўсяго за тры месяцы да смерці ў бараўлянскім шпіталі ён сустракаўся са сваімі чытачамі ў Гродне і Лідзе...

Ужо са смяротнай лажніцы ён прашаптаў схіленаму над ім Янку Брылю: "Мне без вас нельга". Сёння ўсім нам нельга абысціся без Міхася Стральцова. Дык часцей бывайма ў ягоным свеце ясным усе мы, ягоныя чытачы, — якія ёсць і якія яшчэ народзяцца.

**Міхась СКОБЛА.**
**Фота аўтара.**

## Міхась СТРАЛЬЦОЎ

***

*Рыгору Барадуліну*

*Стаяў і я на гэтай кручы:*
*Як звон, быў дзень — каціўся Сож*
*Туды, дзе гэты бераг злучан*
*З маленствам — тым, што басанож,*
*З парою той, якою далі*
*Сваю сінечу і смугу*
*На развітанне мне аддалі, —*
*Аддаць назад ім ці змагу?*
*Ды як аддаць, мой свеце любы,*
*Аднойчы ўзяўшы падарож,*
*Святло той рэчанькі Галубы,*
*Якую прыгалубіў Сож?*
*Ці тыя засень або ясень,*
*Той лог, аблогу, мурагі,*
*На сенакосе Касю з Ясем,*
*За імі — копы і стагі;*
*Каня над рэчкаю іржанне,*
*І нават голасу дрыжанне*
*У словах — родны, дарагі?*
*Яны са мной — і мною сталі,*
*Праз вёскі і праз гарады*
*Мяне раптоўна даставалі,*
*І паўставалі, і ўрасталі*
*Ў мае трывогі і гады.*
*І ўсё вяла, вяла дарога —*
*То хмель на ёй, то дзераза.*
*І так хацеў спазнаць я многа,*
*І так хацеў сказаць, нябога, —*
*І шмат чаго я не сказаў!*
*Я вінават, што скрухай змучан,*
*Што даль юначую заву...*
*А ты даруй — я з гэтай кручы*
*Хілю павінна галаву.*

## Купала

*У Анны у Андрэеўны Ахматавай*
*Ёсць невялікі вершык — ён пра тое,*
*Як Муза ёй з'явілася аднойчы*
*У пастушковых строях і з жалейкай.*
*— Скажы, ці ты калісьці дыктавала*
*Старонкі "Пекла" Дантэ? Адкажы! —*
*Так запытала Музу паэтэса.*
*І сціпла адказала Муза: "Я".*

*А сына Дамініка Янука,*
*Якога сёння мы завём Купалам,*
*Натоўп аднойчы пераняў дарогай —*
*Галодны, босы, у падраных світках.*
*Сын Дамінікаў запытацца мусіў,*
*Хто вы, маўляў, адкуль і хочаце чаго вы?*
*І быў адказ, як выдых: — Беларусы!..*
*Ён блаславіў іх, а натоўп яму*
*Аддаў у рукі верную жалейку.*

КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

# Сакрэты сямейных бібліятэк

***Жора Калдун чытае кнігі, каб быць інтэлігентам, а Зміцер Вайцюшкевіч — знаўца кніжных развалаў... Таямніцамі сваіх кнігазбораў з "Народнай Воляй" падзяліліся беларускія творцы.***

## *Георгій Калдун толькі нядаўна навучыўся чытаць*

***Тэлевядучы не хавае, што раней яго не цягнула да кніжак.***



"*Мне ў дзяцінстве тата жартам казаў: "Жора, адзіная кніга, якую ты прачытаў за ўсё жыццё, — гэта "Урфін Джус і яго драўляныя салдаты"*, — узгадаў тэлевядучы і спявак **Георгій Калдун**. — *Часткова ён меў рацыю. Толькі ў апошні час я стаў шмат чытаць. І зараз навёрстваю тое, ад чаго ў мяне ў дзяцінстве адбілі ахвоту настаўнікі. "Майстра і Маргарыту" я ў школе не чытаў, бо прыпадносілі нам яе так, што не "зайшла" кніга. А вось зараз прачытаў яе на адным дыханні.*

*З апошняга я набыў творы Эрыка Бёрна — мне параілі "Гульні, у якія граюць людзі" і "Людзі, якія граюць у гульні". Калі браць у цэлым, то я аддаю перавагу фантастыцы, казачнай прозе скандынаўскіх пісьменнікаў, Жванецкаму, Вішнеўскаму, Ільфу і Пятрову, Губерману".*

З кожным годам зорка айчыннага тэлебачання ўсё часцей і шчыльней прыглядаецца да вітрын кніжных магазінаў. Магчыма, бяруць сваё гены?

"*Мае бацькі чыталі вельмі шмат, і бібліятэка была даволі вялікай*, — прызнаўся Жора. — *Праўда, пасля рамонту частку кніг мы перавезлі з братам Дзімам да мамы, якая зараз жыве ў Смалявічах. Там прыватны дом і проста больш месца. Але ў апошні час я пачаў заўважаць за сабою, што набываю сабе кнігі. Раней такога не было, і толькі ў апошнія два-тры гады, калі мне знаёмыя раяць набыць якую-небудзь кнігу і яна мне падабаецца, я імкнуся купіць яе, каб і ў маёй бібліятэцы яна была. Нейкія выданні я мэтанакіравана бяру ў мамы. А вось у электронным выглядзе кніжкі чытаць не люблю".*

Аглядаючы свае кніжныя ўладанні, Георгій Калдун міжволі ўсміхаецца: *"Раблю ўражанне інтэлігентнага чалавека..."*

## *Міхась Скобла на кнігі зарабляў па начах*



У свой час Савецкі Саюз называлі самай чытаючай краінай у свеце. За заветнымі томікамі Дзюма, Рэмарка, Хемінгуэя стаялі чэргі, людзі збіралі хатнія бібліятэкі пакаленнямі.

Пісьменнік і журналіст **Міхась Скобла** дакладна памятае той час, калі пачаў збіраць сваю ўласную бібліятэку.

"*На жаль, я не атрымаў у спадчыну сямейнай бібліятэкі з кніжнымі рарытэтамі, у скураных вокладках, бо ў сялянскіх сем'ях не было такой завядзёнкі — збіраць прыватныя бібліятэкі*, — прызнаўся Міхась Уладзіміравіч "Народнай Волі". — *Першыя кнігі я купіў школьнікам на зробленыя на зернятоку грошы (прычым працавалі, як правіла, у начную змену). У слаўным сваёй гісторыяй мястэчку Дзярэчын была маленькая ўтульная кнігарня, і я любіў туды зашывацца. Памятаю, у 1982 годзе за 75 капеек купіў кнігу Ларысы Геніюш "На чабары настоена", біяграфію Сент-Экзюперы з папулярнай тады серыі "ЖЗЛ". Гэтыя выданні сёння стаяць на маіх кніжных паліцах, яны мне дарагія. Стаяць сярод прыкладна пяці тысяч іншых кніг..."*

Міхась Скобла лічыць, што пяць тысяч кніг — гэта зусім няшмат.

*"Я не раблю акцэнт на колькасным складзе бібліятэкі, толькі на якасным*, — тлумачыць ён. — *Гэта кнігі, да якіх я адчуваю патрэбу час ад часу вярнуцца, перачытаць. Вельмі ж шмат у нас кніг аднаразовых, якія прачытаў, потым падараваў сябру ці аддаў у бібліятэку. Ёсць бібліяфілы і бібліяманы. Бібліяманы збіраюць як мага больш кніг, а бібліяфілы збіраюць якасныя бібліятэкі. Я адношу сябе да апошніх".*

Па меркаванні Скобы, у бібліятэцы амаль кожнага паважаючага сябе бібліяфіла павінна быць беларуская Біблія, пажадана — у перакладзе ***Васіля Сёмухі***.

*"Павінны быць таксама "Вянок"* ***Максіма Багдановіча****, "Новая Зямля"* ***Якуба Коласа****, выбраная паэзія* ***Янкі Купалы****, збор твораў* ***Уладзіміра Караткевіча,*** — працягвае пісьменнік. — *І яшчэ прыкладна сотні дзве-тры беларускіх кніг. А каб сэканоміць месца на сваіх паліцах, раю ўсім займець у сваім кнігазборы анталогіі "Краса і сіла" і "Галасы з-за небакраю". Там сабрана найлепшая беларуская і сусветная паэзія".*

Нягледзячы на ўсю прывабнасць друкаванага слова, даследчыкі ўсё часцей кажуць, што будучыня за электроннымі кнігамі.

*"Узгадалася добрае выслоўе: французскі паэт Поль Кладэль назваў бібліятэку "гербарыем пачуццяў і жарстяў, які зберагае засушаныя ўзоры цывілізацый"*, — разважае наконт кніжнай электронікі Скобла. — *Аніякая электронная ці аўдыёбібліятэка не здолее быць такім гербарыем. Папяровую кнігу можна пакласці пад падушку, у яе можна схаваць васілёк ці рамонак, на яе палях можна запісаць сваю рэфлексію, на пяпровай кнізе ў рэшце рэшт можна паставіць аўтограф аўтара. Вось нядаўна Уладзімір Някляеў на кнізе пакінуў такі надпіс: "Было мне Скоблу бачыць люба/ У Крэве ў дзень пасадкі дуба./Дзе падпісаць я Скоблу рады/ Па-ўкраінску пераклады". Я чытаю гэтыя радкі і ўспамінаю, як мінулай восенню добрай літаратурнай сябрынай садзілі ў Крэве Дуб паэзіі. Вось паспрабуйце вы напісаць аўтограф на электроннай ці аўдыёкнізе! І пад падушку не пакладзяце, і закладку не зробіце. Так што папяровая кніга незаменная! І традыцыйныя бібліятэкі з папяровых кніг жылі, жывуць і яшчэ доўга жыць будуць".*

## *Зінаіда Бандарэнка ледзь не атрымала кол за Коласа*

У легендарнага дыктара Беларускага тэлебачання **Зінаіды Бандарэнка** свая гісторыя, звязаная з літаратурай. Зараз ужо і не разбярэшся, як быў зроблены адзін крок ад страху да любові...

"*На мой светапогляд вельмі паўплывала кніжка Якуба Коласа "На ростанях"*, — распавяла народная артыстка Беларусі. — *Па-мойму, у восьмым класе гэты твор мы праходзілі па школьнай праграме. Цікавая гісторыя тады выйшла. Я нейкім чынам правінілася перад настаўніцай, і яна паставіла ўльтыматум: калі не прачытаю праз тры дні "На ростанях", дык атрымаю кол па беларускай літаратуры. Дастаць гэтую кніжку ў той час было проста немагчыма! Прыйшлося ісці ў нашу Гомельскую абласную бібліятэку і там тры дні пасля школы сядзець над трылогіяй. Так атрымалася, што ніхто, акрамя мяне, не прачытаў раман, і на наступных уроках я стоячы распавядала ўсе падзеі гэтага твора".*



Зінаіда Аляксандраўна не ўзгадала, з чаго пачалася яе бібліятэка, але сёння свайго жыцця без роднага кнігазбору артыстка не ўяўляе.

"*Можа быць, таму, што я чалавек старой фармацыі, у нас дома вельмі вялікая бібліятэка*, — распавядае яна. — *У нас вялікая бібліятэка і расійскіх, і беларускіх, і замежных класікаў. Мы ўжо не можам без гэтых кніг. Як абысціся без слоўнікаў, энцыклапедый? Калі што — адразу кідаешся да іх...*

*Кожны інтэлігентны чалавек павінен валодаць бібліятэкай. Калі-небудзь папяровыя кніжкі знікнуць, але не хочацца верыць у гэта. Маім унукам у спадчыну застанецца адзінае багацце нашага дома — бібліятэка".*



## *Адам Глобус не верыць, што кнігі знікнуць*

Калі пра адных можна сказаць, што яны нарадзіліся з залатой лыжкай у роце, то знакаміты пісьменнік і мастак **Адам Глобус** на свет з'явіўся з томікам пад пахай. Любоў да літаратуры і пашана да кнігі з ранняга дзяцінства сталі жыццёвымі правіламі для будучага творчага скандаліста.

"*Мая маці — бібліятэкар, а бацька — пісьменнік*, — нагадаў спадар Глобус. — *Я вырас у асяродку, дзе былі пісьменнікі, кніжкі... Таму я іх люблю, таму стаў пісьменнікам, займаюся кнігавыдавецкай дзейнасцю. У тым, што кніжак становіцца трошкі менш, я, напрыклад, вялікай бяды не бачу.*

*Упэўнены, што папяровая кніжка захаваецца, як захаваўся тэатр".*

## *Зміцер Вайцюшкевіч спустошвае букіністычныя крамы*

***Музыка Зміцер Вайцюшкевіч не можа знайсці дастаткова часу на сваю будучую бібліятэку.***

"*Я збіраю ўласную бібліятэку, але не метадычна, а як атрымліваецца*, — зазначыў музыка. — *Справа ў тым, што я зараз жыву ў доме бацькоў жонкі, а там і да мяне была вялікая бібліятэка. Зараз трэба наводзіць у ёй парадак, бо вельмі шмат тамоў. Ёсць нават падпіска часопіса "Тэатр" 80-х гадоў, якая зараз можа лічыцца рэдкасцю ў спецыялістаў".*

Пры гэтым дбайны гаспадар Вайцюшкевіч ведае, дзе можна танна і вельмі ўдала абзавесціся ўласнай бібліятэкай.

*"Зараз час збіраць бібліятэкі*, — канстатуе музыка. — *У крамах "Букініст" такія кошты на поўныя зборы савецкіх часоў беларускіх і замежных аўтараў! Час назапашваць асабліва тым, хто мае лецішчы. У мяне дом на Нёмане, і я там нават сам паліцы зрабіў, каб усё прыгожа выглядала. Хачу на старасці браць кніжку і сядзець пад ліпамі, чытаць Набокава, Дастаеўскага, Барадуліна.*

*Людзі, якія не спяць у шапку і ведаюць, што такое кніжка, скупляюць за тры капейкі ўсё, што толькі з'яўляецца ў букіністычных крамах".*

Дарэчы, спадар Вайцюшкевіч сам стваральнік свайго шчасця, а хутчэй сказаць, любові да літаратуры.




"*Нарадзіўся і выхаваны я быў у традыцыйнай сям'і, дзе любоў да чытання так моцна ўжо і не выхоўвалі*, — кажа ён. — *Школьную праграму, напрыклад, я спецыяльна не чытаў. Гэта быў мой унутраны пратэст. Пасля, калі падрос, нешта набываў з Булгакава, нешта з Дастаеўскага, Чэхава. Пасля забыўся змест, і некалькі гадоў таму перачытаў усё як нанава.*

*У маім дзяцінстве, дарэчы, яшчэ была ў нас у Бярозаўцы кніжная крама. Зараз яе там няма, толькі пустое месца..."*

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

**ФАКТ У ТЭМУ**

На пачатку года выдавецтва "Літаратура і мастацтва" аб'явіла: на Поўнае сабранне твораў **Уладзіміра Караткевіча** падпісалася трохі больш за 100 чалавек...

ВНЕ ИГРЫ

## *Андрей МЕЗИН:* «Страшно быть гандбольным вратарем...»

*О прелестях и сложностях трудовых будней хоккейных вратарей корреспондент "Народной Воли" беседует с голкипером минского "Динамо" и сборной Беларуси* ***Андреем МЕЗИНЫМ***.



**— Когда команда проигрывает, болельщики частенько мечут стрелы критики во вратарей. Все ли зависит от голкиперов?**

— Скажем так — многое. Вратари становятся объектом повышенной критики, наверное, потому, что именно они на последнем рубеже обороны. Никто же особо не разбирается, как там до этого сыграли твои коллеги по защите или соперники в нападении. Шайбу пропустил ты.

**— Психологическая устойчивость имеет большое значение?**

— Безусловно. И чем больше у тебя игровой практики, тем больше устойчивость и уверенность в себе. Но в то же время можно себя уверенно чувствовать и пропустить пять голов. Все зависит от того, как играет команда в целом, один вратарь матч не выиграет. Вот в матче с "Салаватом Юлаевым", в котором "Динамо" проиграло 4:8, не было трех основных хоккеистов, и игра у команды совсем не пошла. Где-то раз в год такое происходит.

**— Что для голкипера главное?**

— Есть много всяких нюансов. Но главное, наверное, — это все-таки уверенность в партнерах.

**— Шайба летит со скоростью более ста километров в час. Уже привыкли, что в вас регулярно метают, как говорил один комментатор, резиновый диск?**

— Так ведь тело защищено амуницией. Хотя есть, конечно, пробиваемые места. Но бояться-то чего? Сам же себе работу выбрал, приходится терпеть.

**— Сколько раз бросают по воротам за тренировку?**

— Не считал, но оч-чень много. К тому же все зависит от того, какую тренировку проводит команда и чего добиваются тренеры.

**— Травмы от шайбы были?**

— Бывали. Попадали в колено, ключицу... Не смертельно, переломов не было, но выбывал из строя на неделю-две. Все-таки ушибы сильные. Иногда шайба под щиток залетит — от всего не застрахуешься.

**— Вас по сравнению с голкипером Леонидом Фатиковым можно назвать миниатюрным. Рост для вратаря в хоккее имеет большое значение?**

— У каждого свои преимущества и сложности. Габаритный вратарь занимает больше пространства в "рамке", но медленнее передвигается. Да и таскать же надо такой вес весь матч на полусогнутых ножках. Поэтому, как говорят, бабка надвое сказала, кому лучше.

**— Могли бы попробовать себя голкипером в другом виде спорта?**

— В футбол играем на тренировках, ставили в ворота. Ничего — жить можно. Правда, хочется голы забивать, так что прошусь в нападение. А вот в гандболе никогда бы не стал на "рамку", там мне почему-то страшно.

**— Многие помнят курьезную шайбу, которую на Олимпиаде шведский голкипер Томми Сало пропустил после броска белоруса Владимира Копатя. В вашей практике такие курьезы случались?**

— Не без этого. Помнится, играя за сборную, решил выбросить шайбу вперед на нападающего. Попал в ногу нашего игрока Саши Макрицкого, и тот забил гол мне же в ворота. Обидно.

**— В футболе вратари иногда забивают голы с игры, пробивая пенальти... Вам никогда не доводилось исполнять буллит или идти в нападение?**

— Не доводилось и даже не пытаюсь это делать. Можно, конечно, и голкиперу попытать счастья у чужих ворот, но тогда жди гол в свои ворота. Мое дело — ловить шайбу, а не забивать. Каждый должен быть на своем месте...

**— Андрей, в последнее время некоторые на форумах пишут: Мезин, мол, сдает, уже "накушался" хоккеем...**

— Я уже привык к тому, что сколько людей — столько мнений. Но, может быть, кто-то не знает, что у меня была травма, после чего я три недели находился без игровой практики. Вышел, сыграл одну игру — снова практически две недели на скамейке запасных. Так о какой стабильной игре можно говорить, если такие перерывы? Поставьте вы в ворота с такой практикой даже Патрика Руа, и он ничего не покажет. Но я верю, что у меня еще будут хорошие матчи...

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

МАЗАІКА

## *Малдову мы пакуль перамагаем*

*У мінулыя выхадныя мужчынская зборная Беларусі па тэнісе выйграла матчавую сустрэчу першага раунда II групы Еўра-Афрыканскай зоны Кубка Дэвіса супраць каманды Малдовы з агульным лікам — 4:1.*

У рэйтынгу Кубка Дэвіса перад гэтай сустрэчай зборная Беларусі займала 51-е месца, а малдаване знаходзіліся на 77-й пазіцыі. У наступным раўндзе на пачатку красавіка беларусы згуляюць з камандай Босніі і Герцагавіны.

## *Калі б яшчэ і трапная стральба...*

*Беларуская біятланістка Дар'я Домрачава заняла 3-е месца ў гонцы праследавання на этапе Кубка свету ў фінскім Канціялахці.*

На фінішы Дар'я прайграла ўсяго 1,1 секунды немцы Магдалене Нойнер і 37 секунд фінскай спартсменцы Кайсе Мякярайнен. Беларуску падвяла стральба...

У агульным заліку Кубка свету ў лідарах Нойнер (930 ачкоў), Домрачава (891) и Мякярайнен (793).

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШАШКІ

## Ігрок, складальнік...

Віталь Варушыла вядомы ў шашках як практычны ігрок, складальнік камбінацый і эцюдаў на 64- і 100-клетачных дошках, арганізатар і прапагандыст старадаўняй гульні. Ён — нацыянальны майстар, намеснік старшыні БФШ, старшыня Рэспубліканскай камісіі па шашачнай кампазіцыі, вядучы рубрыкі "Шашкі" газеты "Спортивная панорама". Пад яго кіраўніцтвам прадстаўнікі Беларусі паспяхова выступілі ў міжнародных спаборніцтвах, і Сусветная федэрацыя прысвоіла ім ганаровыя званні па кампазіцыі: міжнароднага майстра — мінчанам Віктару Шульгу і Васілю Грабенку, майстра ФМЖД — Аляксандру Сапегіну (Усполле Мсціслаўскага раёна) і Аляксандру Кагоцьку (Пінск).

Для **бліца-76/6** В.Варушыла перадаў нам па электроннай пошце сваю канструкцыю 6 на 8:



**Белыя**: b2, b4, c3, d2, d4, h4 (6). **Чорныя**: b6, d6, d8, e7, f4, f6, g5, g7 (8).

Наступныя разгледзьце па-за конкурсам:

1.**Белыя**: a1, d4, f6, g1, h6 (5). **Чорныя**: b4, b6, e5, f4, h2 (5). Hg7, b2, h8, g3, f2+.

2.**Белыя**: 14, 28, 39, дамкі 10, 50 (5). **Чорныя**: 37, дамкі 4, 5, 46 (4). 9, 41x.

3.**Белыя**: 10, 22, 28, 32, 38, 40, 41(7). **Чорныя**: 11, 17, 20, 21, 29, 30, 39, 45(8).

Разбярыце самастойна.

***

Чакаем адказаў на працягу двух тыдняў па адрасе**: 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная Воля", рубрыка "Шашкі".**

## Рашаем разам

**Бліц-76/5** (П.Шклудаў): h6, h2:f4, fg7, g7, g7, g3, d2, h8, e3, d8x. Адказваем мінчаніну Ч.Якубоўскаму, што пазіцыя легальная, але доказ магчымасці пачатковай расстаноўкі фігур паказваецца толькі суддзям.

**Па-за конкурсам** (М.Грушэўскі): падманлівыя сляды № 3 — I c7? (e5) b8A (f4,f2)x. IA d8 (f6, f6) g3 (e5/g5)x. IIb8? (h2) a7 (fg1)x.

Папярэднія заданні выканалі: А.Чумакоў (Светлагорск), Аль-Корані, Д.Малашка, А.Жур, В.Плаўсюк, Я.Фокін і М.Лічко (Уздзенскі раён), Л.Жыхар (Мядзел), І.Ананіч (Гродна), У.Сапяжынскі (Рагачоў), А. Камінская (Вілейка), В.Бандарэнка (Кіраўск), М.Саўкін (п.а Суднікі Валожынскага раёна), В.Бялоў (Магілёў), Ц.Каркенаў, Д.Семянюк і А.Янчук (Камянец), А.Літвінаў (Мінск), Ч.Якубоўскі і іншыя.

**Мікалай ГЛАДКІ.**



**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 13.02.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28300 экз. Заказ №696.**